Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 11 (519) 18 сакавіка 2010 года | Кошт **свабодны**

























нумар **166** дзённа й ночна

**абвесткі з хатняга тэлефона ў «ВГ»**




Вясна!
Photo ByMedia.net

# Êàë³ ìàëàäûÿ íå ³äóöü ó ÇÀÃÑ, òî ñóïðàöî¢í³ê³ ÇÀÃÑà¢ ìîãóöü ñàì³ ïðûéñö³ äà ³õ

Алесь Сьнег

**Калі маладыя не ідуць у ЗАГС, то, па іх жаданні, супрацоўнікі ЗАГСу зараз могуць прыйсці да іх. Аддзелы запісаў актаў грамадзянскага стану Віцебскай вобласці ўкараняюць новы выгляд паслуг - рэгістрацыю шлюбу з выездам да месца правядзення імпрэзы, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў галоўным упраўленні юстыцыі Віцебскага аблвыканкама.**



Супрацоўнікі ЗАГСу з цяперашняга года могуць правесці цырымонію і дома ў маладых, і ў якім-небудзь маляўнічым ці гістарычным месцы, абраным жаніхом і нявестай. Апроч таго, аддзелы ЗАГС гарадскіх і раённых адміністрацый усё часцей самі прапануюць маладым нетрадыцыйныя месцы для заключэння шлюбу. Напрыклад, у Віцебску вясельную цырымонію праводзіць цэнтр народнай культуры і рамёстваў «Задзвінне», у Полацку стаць мужам і жонкай можна ў сценах Сафійскага сабора, а пасля цырымоніі разам з гасцямі прайсці з экскурсіяй па знакамітым храме і паслухаць пышны арган. Запрашае на рэгістрацыю і музей ткацтва - яшчэ адзін філіял Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. У Браславе, Гарадку перад маладымі расхінаюць дзверы Дамы культуры, у Докшыцах - музей народнай славы, а ў Лепелі - Дом рамёстваў.

Нават калі цырымонія праходзіць у сценах аддзела ЗАГС, яго супрацоўнікі заўсёды гатовыя прыўнесці ў яе штосьці новае і пайсці насустрач маладым у іх жаданні зрабіць яе непаўторнай. Так, у Полацкім гарадскім аддзеле ЗАГС праводзілі «шляхецкае вяселле» і нават «рыцарскае вяселле», на якім маладыя і іх госці былі ў сярэднявечных касцюмах.

Па дадзеных галоўнага ўпраўлення юстыцыі аблвыканкама, у 2009 годзе ў вобласці было зарэгістравана 9793 шлюбаў, у 2008 годзе - 9615. Нароўні з павелічэннем колькасці шлюбаў, у ЗАГСах адзначылі рост колькасці ўрачыстых цырымоній, звязаных са срэбнымі, залатымі, жамчужнымі, а часам і ружовымі вяселлямі. Калі ў 2008 годзе адзначаўся 261 такі юбілей, то ў 2009 - 290.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Íå íà òûõ íàðâà¢ñÿ

Станіслаў Раманчук

**Толькі некалькі хвілін адчуваў сябе “крутым ганстэрам” 34-гадовы жыхар Мёрскага раёна, калі рашыўся на дзёрзкае злачынства.**

Ён не прыдумаў нічога лепшага для сябе, як паспрабаваць абрабаваць перад заканчэннем работы Дом гандлю гарпасёлка Ветрына, што ў суседнім Полацкім раёне. Маючы амаль двухметровы рост і ўнушальную фізічную сілу, гэты малады мужчына, які не меў дагэтуль сур’ёзных непрыемнасцей с законам, разлічваў настрашыць двума прыхопленымі з сабой нажамі прадаўшчыц, і тыя лёгка падзеляцца з ім сабранай грашовай выручкай. Потым пад покрывам цемры злачынца думаў уцячы адсюль на сваім веласіпедзе, затаіцца, каб не спрацаваў міліцэйскі план “перахват”. Аднак, відаць, няпрошаным госцем гандлёвай кропкі “сцэнарый” атрымання нажывы быў распрацаваны дрэнна, бо не ўлічыў, што ў гэты час грашовую выручку забіраюць інкасатары. Нават убачыўшы іх службовую машыну, рабаўнік не адмовіўся ад сваіх планаў. Перад выхадам з Дома гандлю граміла накінуўся на людзей у форме, вырваў з рук мяшок з 6,5 млн. рублёў. Не спынілі яго і два папераджальныя стрэлы ў паветра, і толькі тры наступныя кулі па назе прымусілі здацца. Зараз ранены мужчына лечыцца пад вартай у бальніцы, пасля ягонага выздараўлення адбудзецца суд, і ў аматара вострых сітуацый будзе потым багата часу падумаць на зоне над сваімі паводзінамі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Áàð'åðû íà ðî¢íûì ìåñöû

Кастусь Александровіч

**Хоць і шмат цяпер размоў аб мадэрнізацыі айчыннай эканомікі, па-ранейшаму дыктуюць гаспадарнікам, як жыць і што рабіць, чыноўнікі розных узроўняў.**

У выніку камандных метадаў кіравання трапіла нечакана ў бяду адно з вядучых у Пастаўскім раёне прадпрыемстваў, ААТ “Паставымэбля”. Гэтыя мебельшчыкі, як і іх калегі з Варапаеўскага ДАКа, сутыкнуліся з тым, што ўжо некалькі месяцаў нідзе іх нават самую лепшую прадукцыю не купляюць. Справа ў тым, што абодва гэтыя прадпрыемствы абласной мясцовай прамысловасці не ўваходзяць у склад канцэрна “Беллесмэбляпрам”, а недзе ў кабінетах улады з’явіўся загад набываць паўсюдна вырабы толькі гэтай структуры. Як вынік, партнёры пастаўчан яшчэ напрыканцы мінулага года адмовіліся ад раней заключаных кантрактаў. Сёлета стала сітуацыя яшчэ больш тупіковай, практычна два месяцы спрацавалі на склад, нягледзячы на тое, што пастаўскія спальні, кухні і нават школьная мэбля, адпавядаючая стандартам ЕС, сталі незапатрабаванымі. Нават школам раёна загадалі набываць прадукцыю з Мастоў, хоць яна горшая якасцю і даражэйшая. Канешне, неўзабаве чыноўнікі сваю памылку могуць выправіць. Але ці не з такіх вось загадных механізмаў практычна на склад вырабляюць прадукцыю яшчэ і на льнозаводзе, Лынтупскім спіртзаводзе, а Варапаеўскаму заводу ЖБВ не аплочваюць выкананыя заказы.

# Ç ìýòàé ïàïóëÿðûçàöû³ Áðàñëà¢ñêàãà ðýã³¸íà ïðàâîäç³ööà êîíêóðñ “Áðàñëà¢ñê³ ñóâåí³ð”

Браслаўскі МРЦ

**З мэтай папулярызацыі Браслаўскага рэгіёна, яго прыродных, культурных і гістарычных асаблівасцей у гэтым годзе праводзіцца конкурс “Браслаўскі сувенір”. На мэце стаіць распрацоўка брэнда Браслава і яго далейшае выкарыстанне ў рэкламных і прадстаўнічых мэтах.**

Таму запрашаем майстроў, мастакоў, дызайнераў прыняць актыўны ўдзел. Прымаюцца вырабы, зробленыя ў розных тэхніках і накірунках (традыцыйныя і ўтылітарныя вырабы, дэкаратыўна-ужытковыя, мастацкія, скульптура, мастацкая фатаграфія і г.д.). Галоўная ўмова - наяўнасць на сувеніры сімвалаў Браслава (назва, герб, памятныя даты).

Свае працы ўдзельнікі конкурсу прадстаўляюць да 15 красавіка ў Музей традыцыйнай культуры. Журы ацэніць мастацкі ўзровень, суадносіны заяўленай тэматыцы, тэхналагічнае майстэрства. Пераможцы будуць названыя ў час правядзення “Браслаўскіх зарніц” 29 - 30 мая. Яны атрымаюць дыпломы і грашовыя прэміі: за 1-е месца - 5 базавых велічынь, за 2-е і 3-е месцы адпаведна чатыры і тры базавых велічыні.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Ãàñöÿì çà¢ñ¸äû ðàäû

Чэслаў Якубовіч

**Сезон летняга адпачынку яшчэ толькі наперадзе, але на вядомай турбазе “Браслаўскія азёры” ужо ведаюць, што і сёлета тут будзе наплыў адпачываючых не толькі з Беларусі, але і з суседніх краін.**

Гэтаму прафсаюзнаму турыстска-аздараўленчаму прадпрыемству ўжо больш паўстагоддзя, але цяпер яно перажывае быццам другое нараджэнне. Нават у летніх доміках зараз з’явіліся пакоі з усімі бытавымі зручнасцямі. У асноўным жылым корпусе ў многіх нумарах ужо зроблены еўрарамонт. Таму і прайшоўшыя навагоднія святы ў перыяд межсезоння тут весела і цікава сустракалі госці на працягу трох дзён. На турбазе любяць спыняцца і камандзіровачныя ў азёрны край, бо ведаюць аб яе славутай сталовай. У разгар сезона тут не толькі кормяць, але прадстаўляюць выдатны адпачынак да 600 і болей чалавек штодзённа. Акрамя пешых і аўтамабільных экскурсій, работнікі турбазы ўжо колькі гадоў арганізуюць і водныя паходы працягласцю ад 3 да 8 дзён. Нават у халады заўсёды багата наведвальнікаў у нядаўна адкрытым “Турыст”. Прыцягвае гасцей на Браслаўшчыну тое, што прырода цудоўнейшая тут, а цэны даступныя. Адзін дзень знаходжання з трохразовым харчаваннем абыйдзецца турысту ў сярэднім каля 60 тысяч рублёў.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 18.03.10 | | | | пятн.19.03.10 | | | суб. 20.03.10 | | нядз.21.03.10 | | пн. 22.03. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -11 | -14 | -1 | -3 | -2 | -1 | +3 | +2 | +4 | -2 | +5 | +5 | +3 |
| Ціск, мм | 748 | 750 | 752 | 750 | 747 | 746 | 746 | 741 | 740 | 740 | 738 | 736 | 745 |
| Вільготнасць, % | 90 | 88 | 71 | 73 | 94 | 96 | 79 | 90 | 71 | 88 | 81 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю-В 3 | Ю-В 1 | Ю 4 | Ю 5 | Ю 6 | З 3 | Ю-З 5 | З 7 | З 6 | Ю 3 | Ю-З 5 | З 4 | С-З 5 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Сёлета сітуацыя з прыцягненнем у эканоміку Беларусі прамых замежных інвестыцый не толькі трывожная. У Міністэрстве эканомікі падлічылі, што дэфіцыт сальда знешняга гандлю ў 2010 годзе складзе 7,7 % да ВУП. Спецыялісты МВФ і незалежныя эксперты лічаць, што ў лепшым выпадку рост эканомікі складзе ў канцы года 3,8%, а не ніяк 11-13%, як прагназуецца. Пры гэтым каля 10 % насельніцтва краіны з-за малых даходаў жывуць за рысай беднасці, на мяжы галечы.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Бельгія.*** Новы еўракамісар па палітыцы добрасуседства чэх Штэфан Шуле заявіў у Брусэлі, што Беларусі прыйдзецца прайсці “доўгі шлях” па збліжэнню з Еўрасаюзам.

***Украіна.*** Як і чакалася, Вярхоўная Рада адправіла ў адстаўку ўрад Ю. Цімашэнкі, а новы прэзідэнт краіны В. Януковіч свой першы замежны візіт зрабіў у Брусель, а не ў Маскву.

***Канада.*** Пасля зімовых Алімпійскіх гульняў у Ванкуверы адразу 7 чалавек папрасілі там палітычнага сховішча і статус эмігранта, сярод іх 1 рускі, 1 японец і некалькі венграў.

***Польшча.*** За дынамічнае развіццё эканомікі краіна дадаткова атрымае са спецрахунка ЕС больш 1 млрд. EUR дапамогі, яшчэ летась тут сярэдні заробак перавысіў 1500 долараў.

***Германія.*** З-за сусветнага крызіса ўпершыню пасля вайны ў краіне летась знізілася зарплата на 0,4 % і склала на рукі кожнаму немцу за год у сярэднім па 27,7 тысяч еўра.

***Эстонія.*** Падчас маштабных ваенных манеўраў НАТА ў знак салідарнасці з Прыбалтыкай ў грамадзянскім аэрапорце Таліна зрабілі пасадку шэраг баявых самалётаў ВПС блока.

***Швейцарыя.*** На 80-м Міжнародным аўтасалоне ў Жэневе вядучыя аўтаканцэрны свету “Audi”, “Alfa Romeo”, “Mazda”, “Peugeot” і іншыя прадставілі 100 навінак сваіх машын.

***Кітай.*** Абаронны бюджэт краіны стаў сёлета рэкордным, дасягнуў 78 млрд. USD, армія КНР дасягнула 2,3 млн. чалавек, правячая кампартыя прыняла новы маральны кодэкс.

***Турцыя.*** Услед за Гаіці, Чылі і Тайванем у цэнтральнай частцы глыбінкі краіны адбыўся чарговы магутны землятрус, які забраў жыцці 57 чалавек, разбурыў шмат дамоў туркаў.

***Украіна.*** Каля магілы Тараса Шаўчэнкі новы лідэр краіны В. Януковіч выказаўся за развіццё адзінай дзяржаўнай украінскай мовы і адмовіў у гэтым статусе рускай мове.

***Казахстан.*** Толькі ў Алмаацінскай вобласці краіны ўлады эвакуіравалі ў палатачны гарадок больш 6,5 тысяч вяскоўцаў з-за разводдзя і пагрозы падтаплення іх жылых дамоў.

***Іспанія.*** Паблізу Барселоны падчас шторму вышынёй хваль 26 метраў і хуткасці ветру больш 100 км/г на круізным судне загінулі 2 і яшчэ 6 пасажыраў былі паранены стыхіяй.

***Польшча.*** Гарадскі савет Кракава прыняў у знак салідарнасці з палякамі ў РБ рэзалюцыю, у якой прызнаў беларускага лідэра персонай нон-грата ў старажытнай сталіцы Польшчы.

***Таджыкістан.*** У адрозненне ад Украіны, АБСЕ не прызнаў прайшоўшыя парламентскія выбары тут свабоднымі і дэмакратычнымі, адпавядаючымі сусветным стандартам.

***Англія.*** У графстве Эсекс зафіксаваны рэдкі выпадак, калі ў куратніку некалькі нясушак далі адпор маладой лісе, збілі яе з ног і задзяўблі агрэсіўную госцю да смерці.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** У 114 са 175 малых і сярэдніх гарадоў краіны, як адзначалася на пасяджэнні ўрада, не выкананы заданні па ўзроўню зарплаты, 109 з іх правалілі прагнозныя параметры.

***Астравец.*** На мяркуемай пляцоўцы для ўзвядзення АЭС пабудаваны першы жылы дом для будаўнікоў станцыі, але Расія затрымлівае выдачу крыдыта для АЭС у Беларусі.

***Мінск.*** У 2010 годзе, як зноў пацвердзіла намеснік міністра працы і сацабароны В. Каралёва, пытанне змены пенсійнага ўзросту не разглядаецца, хоць сітуацыя няпростая.

***Мінск.*** У Беларусі, як пацвердзіў сакратар Цэнтрвыбаркама М. Лазавік, прэзідэнцкія выбары могуць прайсці і датэрмінова, эксперты называюць і лістапад для іх правядзення.

***Брэст.*** На тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны “Брэст” на плошчы 1,2 гектара Італія вырашыла стварыць сваю прамысловую акругу з банкамі і сваімі прадпрыемствамі.

***Гомель.*** У калійную галіну можа быць прыцягнуты, як паведаміў у аблвыканкаме 1-ы віцэ-прэм’ер У. Сямашка, буйны замежны інвестар, залежы солі знайшлі ля Петрыкава.

***Мінск.*** З-за новых імпартных пошлін на імпарт аўто на ўзроўні расійскіх у пачатку года юрыдычныя асобы ўвезлі ў РБ толькі 154 аўтамабілі, у 27 разоў меней, чым год назад.

***Маларыта.*** Райцэнтр стаў першым у краіне, дзе закрылі з-за адсутнасці патрэбы адчынены 5 гадоў назад дзіцячы сацыяльны прытулак, бо не было каго сюды забіраць.

***Мінск.*** Першы сакратар Пасольства Польшчы ў Беларусі Павел Марчук асудзіў антыпольскую кампанію на тэлеканалах РБ, у РП цяпер 14 беларускіх гімназій і 20 школ.

***Брэст.*** У вобласць першымі ў Беларусі вярнуліся з выраю пералётныя птушкі жаўрукі, кнігаўкі і шпакі, калі з’явіліся на зямлі веснавыя праталіны без снегу, на чарзе - гусі.

***Мінск.*** Упершыню ў краіне на заводзе безалкагольных напіткаў па ўнікальнай тэхналогіі гарачага разліву пачалі выпускаць сокі пад маркай “Асарці” без кансервантаў у ПЭТтары.

***Астравец.*** Гучны рэзананс набыў арышт начальніка ДАІ раёна за незаконнае паляванне з групай іншых асоб, супраць яго пракуратура Гродзенскай вобласці распачала справу.

***Мінск.*** У беларускай сталіцы на ўзгорку ля стэлы “Мінск - горад-герой” пачалося будаўніцтва новага будынка музея Вялікай Айчыннай вайны з плошчай Пераможцаў.

***Баранавічы.*** За збыт 73 грам макавай саломкі суд асудзіў на 5 гадоў без канфіскацыі маёмасці 77-гадовую жыхарку раёна з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 3 гады.

***Мінск.*** На сцэне ў Осла 25 мая ў першым з паўфіналаў “Еўрабачання-2010” Беларусь прадставіць група “Тры плюс два”, у Вену паедзе 18-гадовы віяланчаліст Іван Карызна.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Структура пасяўных плошчаў на Віцебшчыне сёлета перацярпела змены: пад бульбу адвялі толькі 10 тыс. гектараў, лён 15, калі для рапсу 100, кукурузы 80 тысяч.

***Орша.*** На каторай ужо па ліку нарадзе на льнокамбінаце А. Лукашэнка рэзка крытыкаваў урад і загадаў не змяншаць пасевы лёну, стварыць эфектыўную вытворчасць лёну ў РБ.

***Віцебск.*** Кіраўнік вобласці А. Косінец прапанаваў пры райвыканкамах стварыць камісіі па этыцы, каб не было ў чыноўнікаў праяваў грубасці пры працы з простымі людзьмі.

***Наваполацк.*** З-за зніжэння паставак нафты і пераходу ААТ “Нафтан” на паквартальную выплату падаткаў на прыбытак і ПДВ бюджэт горада і вобласці істотна зменшыўся.

***Віцебск.*** На лікёра-водачным заводзе акрамя традыцыйнай прадукцыі пачалі разліваць мінеральную лячэбна-сталовую ваду “Прыдзвінская” са сваёй глыбокай крыніцы.

***Полацк.*** Прадпрыемства меліярацыйных сетак на сваіх 4 арэндуемых азёрах арганізавала дзяжурства брыгад для прадухілення замораў і гібелі рыбы, запушчаных малькоў.

***Віцебск.*** Кіраўніцтва горада для зняцця праблем з перавозкай пасажыраў у гадзіны пік вырашыла набыць па лізінгу ў красавіку-маі яшчэ 50 тралейбусаў і трамваяў.

***Лепель.*** Пераможцай II Рэспубліканскага конкурса “Жанчына года-2009” стала маці 9 дзяцей з вёскі Анюшкі Валянціна Крыцкая, якая зберагла абрад “Жаніцьба Цярэшкі”.

***Віцебск.*** З 1603 кандыдатаў у мясцовыя Саветы дэпутаты толькі 5 прэтэндэнтаў вылучылі палітычныя партыі, 767 працоўныя калектывы вобласці, сярод кандыдатаў - 758 жанчын.

***Орша.*** З 11 выяўленых сёлета ў вобласці фактаў шаленства жывёл 4 зафіксаваны на тэрыторыі раёна, летась дыягназ шаленства пацвердзіўся на Віцебшчыне ў 175 жывёл.

***Талачын.*** Буйны штраф у памеры 1,05 млн. рублёў заплаціла намеснік галоўнага ўрача райбальніцы за спробу схаваць факт самагубства няпоўнагадовай, а магла і сесці ў турму.

***Полацк.*** Пасля ўстанаўлення даты чаканкі знойдзеных археолагамі пры раскопках летам манет: 800 - 825 гады ўзрост горада стаў яшчэ больш старэйшым, чым лічылася.

***Дуброўна.*** У раённым Доме культуры прайшоў злёт салдацкіх маці, асаблівай увагай на ім былі акружаны матулі загінуўшых воінаў і мамы цяперашніх ваеннаслужачых.

***Наваполацк.*** Футбалісты каманды “Нафтан” толькі ў серыі пенальці саступілі ў матчы за Суперкубак Беларусі па футболе мацнейшаму клубу краіны “БАТЭ” (Барысаў).

***Віцебск.*** Суд Першамайскага раёна горада асудзіў на 4 гады з канфіскацыяй маёмасці былога ўчастковага, які канфіскаваў і прысвоіў сабе спіртавой вадкасці на 10 млн. рублёў.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

## Лічба нумара

**17** ***млн. USD*** такім быў, па самых сціслых падліках, гадавы бюджэт на сезон базавага клуба хакейнай зборнай Беларусі “Дынама” (Мінск). Для нашай зусім не багатай па еўрапейскіх мерках краіны гэта велізарныя грошы, калі ў перыяд эканамічнага крызіса сталі эканоміць на ўсім. Але толькі не на самым прывелігіраваным айчынным спорце №1, бо расійскія крыніцы называлі іншыя лічбы патрачаных на гэтых хакеістаў грошай 25 мільёнаў долараў.

Аднак паказаныя дынамаўцамі вынікі зноў сумныя. Апошняе месца ў сваім дывізіёне Бабровa, 22-е месца ў дамашніх гульнях, чарговы пралёт міма зоны плей-оф Кантынентальнай хакейнай лігі. Самы галоўны хакейны заўзятар, кіраўнік краіны не стаў хаваць негатыўных эмоцый з прычыны няўдалай гульні беларусаў і на хакейным турніры нядаўняй зімовай Алімпіяды. Ды і на чэмпіянатах свету нацыянальная зборная Беларусі не паказвае моцнай гульні, добра яшчэ, што ёй удаецца захаваць месца ў элітнай групе.

Пад пытаннем цяпер, ці змогуць трапіць беларусы і на наступныя Алімпійскія гульні ў Сочы, бо трэба будзе прабівацца праз няпростае сіта адборачных турніраў. А на хакей апошнім часам трацяцца проста шалёныя грошы ў параўнанні з іншымі відамі спорту. Так, бюджэт самага моцнага айчыннага футбольнага клуба “БАТЭ” (Барысаў), які добра паказаў сябе ў Еўропе нават у прэстыжнай Лізе чэмпіёнаў, разоў у 10 меншы, чым у хакеістаў. Самы слабы ігрок хакейнага першынства краіны цяпер са Жлобіна альбо Салігорска мае месячную стартавую зарплату 2-3 тыс. USD, колькі далёка не кожны лепшы футбаліст Беларусі можа разлічваць з улікам прэміяльных і за больш тэрмін.

Можа і не самае лепшае лічыць грошы ў чужых кішэнях, аднак перакос у развіцці спорту вышэйшых дасягненняў відавочны. Так, летась на ўвесь беларускі спорт дзяржава ўклала 103 млрд. рублёў, а на адзін хакей інвесціравала 93 мільярды. Ды і гэта сума не канчатковая, вельмі верагодна, што грошай на хакей з шайбай выдаткоўваецца яшчэ болей. У адпаведнасці з існуючым Указам № 290 на хакейныя каманды краіны толькі ў перыяд 2004-2007 гадоў было выдзелена больш 100 млн. USD спонсарскай дапамогі. Потым такія звесткі сталі засакрэчаныя, а прадстаўнікі іншых відаў спорту з існуючай сітуацыяй змірыліся.

Вось толькі і зараз сярэдняя зарплата дзіцячых трэнераў, іншых спецыялістаў фізічнай культуры, тых жа настаўнікаў у школах проста вартая жалю. А ў нас не саромяцца плаціць шалёныя ганарары заакіянскім трэнерам, потым іх адпраўляць у непрадуманыя адстаўкі і выплочваць кампенсацыі за разрыў кантракта. У базавы клуб зборнай набіраюць палову ігракоў з замежных клубаў, а асобным зоркам раздаюць зарплату пад 1 мільён долараў у год. Самае дзіўнае, ніякіх станоўчых вынікаў яны не паказваюць, хоць і пераехалі гуляць у сапраўды шыкоўную “Мінск-Арэну”.

А сам хакей нібыта пражорлівы геркулес усё патрабуе і патрабуе велізарных затрат. З фінансамі ў Беларусі, не сакрэт, цяпер не так і густа, але трэба рыхтавацца да правядзення ў Мінску чэмпіянату свету, будаваць не толькі яшчэ адну суперарэну, але і шэраг зоркавых гасцініц і іншых аб’ектаў інфраструктуры. Па разліках спатрэбіцца на гэтыя мэты больш 7 трлн. рублёў, калі ўлічыць, што сёлетнія даходы рэспубліканскага бюджэта вызначаны на ўзроўні 35,5 трлн. рублёў.

Тое, што беларуская дзяржава так шчодра падтрымлівае беларускі хакей, гэта яе выбар і прырытэт на фоне іншых балючых праблем. Хай і надалей нашы хлапчукі займаюцца гэтым відам спорту, дзеці і дарослыя катаюцца на каньках, умацоўваюць сваё здароўе. Але ўсё павінна быць у меру і па сродках. А лепшыя хакеісты павінны адпрацоўваць затрачаныя на іх грошы, паказваць дастойныя вынікі, а не быць хлапчукамі для збіцця на лядовых арэнах.

Больш павінна рабіцца стаўка на сваіх ігракоў і спецыялістаў, ад слоў да канкрэтных спраў нарэшце трэба пераходзіць у развіцці дзіцяча-юнацкага спорту. Хакейны сезон для мінскіх дынамаўцаў закончыўся сумна, застаецца дачакацца вынікаў выступлення зборнай Беларусі на чэмпіянаце свету. Яны і пакажуць, ці жывы беларускі хакей альбо ён толькі эпізадычна радуе нас прабліскамі прыгожай і паспяховай гульні?

# І ціхая Бярозаўка можа паказаць некалі свой круты нораў


Рака Бярозаўка ў раёне пошты, сакавік 2010 г. *Фота Ул. Скрабатуна*


Рака Бярозаўка ў раёне пошты. Той самы ракурс (гл. злева) Паводка 1931 г. (?). Уздым павадкавай вады не менш за 1.5 м. Заўважце, мост праз Бярозаўку быў даўжэйшы, больш чым у 2 разы. *Фота 1930-ых гг.*

**Самае актуальнае пытанне на сёння: якой будзе сёлетняя вясна? Дружнай і цёплай? Ці ўсё ж – павольнай? З паступовым таяннем снегу.**

**■ Ул. Скрабатун**

У сямейным альбоме аднаго з жыхароў Глыбокага аўтар убачыў стары, пажоўклы ад часу, фотаздымак. На ім – вясновая паводка. Былі сумневы, што гэта – Глыбокае. Аднак, яшчэ некалькі здымкаў, куды патрапілі тыя ж самыя будынкі з іншага ракурса, не пакінулі сумневу – гэта паводка на рацэ Бярозаўцы (інакш Беразвіцы) у цэнтры Глыбокага. Праўдападобна – паводка ўвесну 1931 года. У мінулым нумары мы змяшчалі архіўныя здымкі паводкі таго ж часу ў горадзе Дзісне (цяпер Мёрскі раён). У нас такіх здымкаў дзесятак. Усе, хто іх бачыў – у шоку, асабліва тыя, хто наведваўся ў гэты горад не раз.

– *Горад Дзісна стаіць на высокім беразе адНайменнай ракі. Гэта ж на колькі метраў узнялася вада, каб затапіць горад вышэй вакон першага паверха? На 7? На 10?*

Такім быў каментар кожнага, хто глядзеў фотаздымкі.

Зрэшты, Дзісна стаіць у сутоцы дзвюх рэк: Дзісны і Дзвіны. Чаго дзівіцца! Раз у стагоддзе такое можа быць! Рака Дзісна збірае воды не толькі з нашага краю, але і з Літвы, Дзвіна пачынаецца ў Расіі.

Аўтар бачыў шмат здымкаў заснежанага Глыбокага 1930-ых гадоў. Цяпер схіляюся да думкі, што гэта быў менавіта 1931 год. Фатограф – думаю, што гэта Леанард Рачыцкі – любіў фатаграфаваць жыхароў горада (а можа, сваякоў і знаёмых) на фоне прапораных, праз снежныя сумёты, тунэляў. Таўшчыня снегу: даросламу чалавеку – да пасу, а дзіцяці гадоў сямі – у поўны рост.

У той год і ціхая Бярозаўка паказала свой круты нораў. Не дзіва, што палякі, паводле сцвярджанняў старажылаў, на возеры Вялікім узрывалі дынамітам лёд, а возера спусцілі на адзін метр.

Не! Аўтар не збіраецца палохаць жыхароў горада, асабліва тых, хто жыве на падтапляемых паводкай тэрыторыях, рознымі, будучымі "страшылкамі". Таўшчыня снегу сёлета ў тры разы меншая, чым у 1931 годзе. Калі не будзе рэзкага пацяплення, то снег паволі стаіць і не будзе ніякіх "катаклізмаў".

Але трэба сказаць праўду! Нашыя глыбоцкія "архітэктары" дапусцілі вялікую горадабудаўнічую памылку, калі пачалі даваць пляцы пад забудову ўздоўж ціхай рэчкі Бярозаўкі (напрыклад, раён маста на вуліцы Вольнай). Усё ж, у плане развіцця горада Глыбокае, які быў складзены ў 1967 годзе (заўважце, за савецкім часам) па лініі: возера Кагальнае–возера Вялікае-возера Падлазнае, запраектавана – лесапаркавая зона! Таксама, па лініі: возера Кагальнае-рака Пескаватка-цвінтар Копцеўка – і далей, аж да месца новапабудаванай цяпер АЗС – лесапаркавая зона.

Калі нехта штосьці не зразумеў, патлумачу. Ніякай забудовы вакол возера Кагальнага – няма! Гэта значыць – па вуліцы Кірава, дзе сёння хаты з боку возера даўно ўраслі ў зямлю, цяпер павінны былі б расці дрэвы. Няма на плане ніякай вуліцы Зарэчнай, якая штораз церпіць ад паводкі. Няма ніякай забудовы вакол берага возера Вялікага. Не павінна тут было быць ні аўтабазы, ні будаўнічых арганізацый...

Хто адмовіўся ад гэтага перспектыўнага плана развіцця горада з 1967 па 1985 гг., які быў распрацаваны і зацверджаны ў Віцебску? Хто, насуперак гэтаму плану, загнаў людзей будаваць хаты ў зоне падтаплення?

Такое пытанне аўтар задаваў адной спадарыні, якая жыве ля моста праз раку Бярозаўку па вуліцы Вольнай і штораз пакутуе ад паводкі. Хату яе затапляе пад самыя вокны. Яна апавяла:

– *Карэпава сказала: «Даю табе пляц у цэнтры горада, ля рэчкі, у самым прыгожым месцы. Глядзі, каб хата твая была прыгожай!» Цяпер, вось, пакутую ў гэтым балоце!*

Неверагодна! Няўжо ў мэра Карэпавай была такая вялікая ўлада, каб карэктаваць генеральны план развіцця горада, які быў распрацаваны на доўгія гады?

Між іншым, яшчэ ў 1995 годзе вяліся размовы аб будаўніцве "суднаходнага" канала з возера Кагальнага ў возера Вялікае. Праект, у якасці дыпломнай работы, мусілі рабіць італьянскія студэнты і, нават, не студэнты вышэйшай навучальнай установы, а тэхнікума. Гэта як у нас ёсць Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, то там, кшталту "Рымскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума". Італьянцы збіраліся фінансаваць не толькі будаўніцтва канала, але і помніка невядомаму італьянскаму жаўнеру на набярэжнай возера Кагальнага. Набярэжная – спуск ад Цэнтральнага пляца да возера – мог нагадваць славутую адэскую Пацёмкінскую лесвіцу ў мініяцюры.

Але што казаць, калі гісторыя не ўспрымае ўмоўнага ладу: што было, каб было інакш? Ёсць толькі тое, што ёсць.

# У 2010 годзе грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» арганізуе поўны ўлік колькасці вяртлявай чарацянкі ў Беларусі

**У 2010 годзе грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) арганізуе ўлік колькасці вяртлявай чарацянкі ў Беларусі на ўсіх вядомых на тэрыторыі Беларусі месцах гнездавання гэтага віду птушак.**

Як паведаміў БелаПАН прадстаўнік АПБ Уладзімір Малашэвіч, мэта кампаніі кантроль колькасці гэтых птушак. З-за меліярацыі гэты від стаў адным з самых рэдкіх у Еўропе. Пры гэтым каля 60% яго сусветнай папуляцыі гняздуецца ў Беларусі. Аднак з-за гаспадарчай дзейнасці колькасць вяртлявай чарацянкі ў краіне ў апошнія гады зніжаецца. У 2009 годзе, паводле розных ацэнак, у Беларусі налічвалася ад амаль 4 да 7,5 тыс. птушак гэтага віду. Поўны ўлік вяртлявай чарацянкі дазволіць скарэктаваць меры па ахове віду.



Паводле слоў Малашэвіча, улік будзе арганізаваны прыкладна ў 20 месцах рассялення вяртлявай чарацянкі. У іх ліку балоты Званец, Спораўскае, балота Дзікае і наваколлі, поймы рэк Прыпяць і Шчара, Бабровіцкае і Выганашчанскае азёры, вусце ракі Гайны, поймы рэк Убарць і Дзітва, **возера Сэрвач**, пойма ракі Свіслач у Гродзенскай вобласці, Альманскія балоты і наваколлі.

Паводле слоў Малашэвіча, у адпаведнасці з прынятай методыкай уліку спецыялісты падлічваюць пявучых самцоў вяртлявай чарацянкі, якія найболей актыўныя на працягу дзвюх гадзін: за гадзіну да і пасля захаду Сонца. У гэты час спецыялісты АПБ і арнітолагі размяшчаюцца ў месцах рассялення віду шарэнгай на адлегласці 50-70 метраў адзін ад аднаго. Яны распазнаюць птушак па голасе, звяраючы іх дакладнае месцазнаходжанне, і паступова прасоўваюцца наперад. У рамках уліку таксама будзе падрыхтавана поўнае апісанне месцаў рассялення віду.

Як адзначыў спецыяліст, з мэтай стварэння спрыяльных умоў для развіцця папуляцыі вяртлявай чарацянкі ў 2010 годзе плануецца праводзіць рэгулярны сенакос на балоце Спораўскае, у 2011 годзе на балоце Званец.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# Чаго хацелі, таго й дамагліся!

■ Ул. Скрабатун

**Давайце самі сабе скажам праўду: наш горад – адзін вялікі сметнік, памыйка… І хто вінаваты ў гэтым? Улады? Міліцыя? Камунальнікі? … Не! Усе мы разам!**

Не забуду, як два гады таму, я завітаў у адзін глыбоцкі "офіс". Начальніка не было, і я вырашыў пакінуць інфармацыю, якую ён прасіў яго падначаленым. Зайшоў у суседні кабінет. І тут аўтар стаў нявольным сведкам жорсткіх дэбатаў насельнікаў гэтага кабінета. Адна спадарыня (пэўна, главбух), з пачуццём выкананага доўгу, вяла рэй у гэтых дэбатах:

– *Эта ж нада! Упёрліся тут, некаторыя, у Глыбокім, рогам! Ну, ніўкакую іх не ўбедзіш! І на што ім тот беларускі язык? Не панімаю! Столькі нам стоіла сіл і врэмені патраціць, паездзіць, напісаць бумаг, но мы свайго дабіліся! Вот не панімают жа людзі, што для іх жа блага стараемся і дзелаем!*

– І што гэта будзе за краіна, дзе няма сваёй мовы! Украінцы, палякі, французы не цураюцца сваёй мовы і культуры,– пярэчыць адзін з прысутных калегаў па рабоце.

– *Маўчы, ты! Тожа мне бэнээфавец яшчэ адзін выіскался! – не суцяшаецца "главбухша".*

Уставіў і аўтар свае "тры капейкі":

– Чаму Вам так не мілая беларуская мова?

– *А зачэм ана нам нужна! Вот мы, после сельскіх школ, паступілі в інсцітуты… С нас так смеяліся, паказывалі пальцам. Во – дзеревня! Мы столька намучыліся, нацерпеліся ўніжэній із-за этага... І куда вы далее пайдзёце са сваім калхозным бэнээфаўскім языком? Нашы дзеці заслужывают лучшай долі і далжны гаварыць па-рускі.*

Вось мы і атрымалі тут, у сябе, тую Расію, аб якой марылі. Я часта задаю эма-



Фота Ул. Скрабатуна

гарам за рускую мову адно і тое пытанне: "Калі вы хочаце размаўляць па-руску, спяваць рускія песні, піць рускую гарэлку, то, навошта вам чыстыя вуліцы і гладкі асфальт? Жывіце, як у Расіі і не плачце, што ў Глыбокім немагчыма праехаць (пару гадоў таму), нават, па цэнтральных вуліцах! Вы ж гэтага дамагаліся!

Радзіма, любоў да Радзімы (патрыятызм) – не пусты гук! Любоў да радзімы выхоўваецца з дзіцячага садка, са школы – з ранняга дзяцінства: праз мову, культуру, гісторыю, традыцыі, нават, праз нацыянальную кухню. У 18 гадоў – ужо няма пра што казаць… Позна! Гэта – незваротна!

Праходзячы пару дзён таму назад праз сквер "Перамогі", убачыў жахлівае відовішча: пад "пірсам", што ўпіраецца ў возера Кагальнае, не адзін дзесятак шкляных і пластыкавых бутэлек ад піва, шампанскага, гарэлкі… І далей, на снезе: бутэлькі, бутэлькі, бутэлькі… Цяпер усё гэта прысыпана снегам. А снег растае! Мы ўбачым яшчэ больш жахлівае відовішча! Не сотні, а тысячы бутэлек. На некалькі КамАЗаў смецця.

Гэта ж так трэба ненавідзець свой горад, сваю краіну! Апаганьваць святое месца! Тут жа пахаваныя воіны, якія вызвалялі наш горад ад нямецкіх акупантаў! Атрымліваецца, што моладзь паводзіць сябе, як акупанты на чужой зямлі. І не толькі моладзь. Нават старэйшага ўзросту людзі, штогод скідваюць у Кагальнае возера ўсялякае жалеззе, шкло, калёсы…

Ну што, змагары за лепшую долю сваіх дзетак, ненавіснікі беларушчыны, жадаеце жыць у чыстым горадзе? Ідзіце, збірайце смецце! За што «бароліся, на тое і напароліся!»



Фота Ул. Скрабатуна

**Камісія па найменаванні і перанайменаванні вуліц, праспектаў, плошчаў і іншых частак горада Мінска прапанавала вярнуць станцыі метрапалітэна «Плошча Леніна» ранейшую назву — «Плошча Незалежнасці», паведаміла БелаПАН сакратар камісіі Людміла Альховікава.**

# Тапанімічная камісія Мінска прапанавала вярнуць станцыі метро «Плошча Леніна» ранейшую назву

З 1992 па 2003 гады станцыя насіла назву «Плошча Незалежнасці», затым першапачатковая назва — «Плошча Леніна» — была адноўлена.

Паводле яе слоў, пасля двухтыднёвага абмеркавання гэтай прапановы ў прэсе будзе прынята рашэнне Мінгарвыканкама аб перайменаванні станцыі метро, якое павінны разгледзець дэпутаты Мінскага гарадскога савета і зацвердзіць на сваёй сесіі.

Сярод іншых прапаноў камісіі Альхавікова назвала перайменаванне Камунальнай набярэжнай, вуліц Вызвалення, Герцэна, Дзімітрава, Віцебскай і Рэвалюцыйнай адпаведна ў Траецкую набярэжную, вуліцы Уваскрасенская, Бернардзінская, Пятніцкая, Няміга-Ракаўская і Койданаўская.

Паводле яе слоў, праектуемай вуліцы ў межах вуліц Адэскай, Лазо, Ушакова, Катоўскага, Чалюскінцаў прапанавана прысвоіць імя аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза Віктара Лівенцава; праезд у 11-м квартале жылога комплексу «Радужны» (малапавярховая забудова ў межах вуліц Піянерскай, Ціхай, завулка Ціхага) назваць Салаўіным, а безыменны праезд каля Мінскага хлебазавода № 1 — Юр'еўска-Завальным.

Акрамя таго, пахаванне ахвяр Першай сусветнай вайны на былых Старажоўскіх могілках прапанавана назваць «Мінскія брацкія ваенныя могілкі 1914—1918 гадоў», а безыменны сквер у межах вуліц Кашавога, Ванеева, будынка аўтавакзала «Усходні», канала Сляпянскай воднай сістэмы, будынка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта — іменем персідска-таджыкскага паэта і вучонага Амара Хаяма.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч выказаў задавальненне прапановамі камісіі, у якой, паводле яго слоў, працуюць спецыялісты і знаўцы гарадской гісторыі. Астаповіч назваў апошнія прапановы камісіі «чарговым крокам па вяртанні старажытных назваў у гістарычным цэнтры сталіцы». Разам з тым, ён выказаў надзею, што гістарычны цэнтр Мінска захаваецца не толькі ў старажытных назвах, але і ў матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцях — помніках архітэктуры.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# «Чарнілы» робяць з радыёактыўных ягадаў

**Па выніках праверкі, у шматлікіх прадуктах у крамах і на хатніх падворках Беларусі выяўлены высокі ўзровень радыяцыі.**

Пра гэта сведчаць вынікі радыяцыйнага кантролю харчовых прадуктаў, праведзенага Рэспубліканскім цэнтрам гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, паведамляюць «Беларускія навіны».

Санслужба паведамляе, напрыклад, што ў 2009 годзе ў гандлёвую сетку Беларусі паступалі чарніцы хутказаморажаныя і свежыя журавіны з перавышэннем дапушчальных у рэспубліцы ўзроўняў утрымання радыёнуклідаў цэзія-137 у харчовых прадуктах і пітной вадзе (РДУ-99). Чарніцы з перавышэннем утрымання цэзія-137 паступілі з горада Бяроза Брэсцкай вобласці ў краму «Кантынент», а свежыя журавіны ў колькасці 196,38 кг з перавышэннем утрымання цэзія-137 знайшлі на складзе Дубровенскага райпо Віцебскай вобласці. Галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Дубровенскага раёна забараніў яе рэалізацыю.

У Гомельскай вобласці таксама трапіліся на жаданні прадаваць радыёактыўную чарніцу. Пры правядзенні праверак прадпрыемстваў Гомельскага аблспажыўсаюза ў сезон масавых нарыхтовак выяўлены тры пробы чарніцы і тры пробы лісічак з перавышэннем утрымання радыёнуклідаў цэзія-137.

Цікава, што ягада не была знішчаная, а, як паведамляе санслужба, «партыя чарніцы была накіравана для прамысловай перапрацоўкі на вінаробную прадукцыю, бо ўдзельная актыўнасць цэзія-137 у чарніцы не перавышала 370 Бк/кг».

# Дэлегацыя МУС Беларусі ўзяла ўдзел у міжнародным кангрэсе па барацьбе з камп'ютэрнай злачыннасцю

15 сакавіка ў Лондане пачаў працу Міжнародны кангрэс па праблемах барацьбы з камп'ютэрнай злачыннасцю E-Crime Congress. Беларусь на ім прадстаўляе начальнік упраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій МУС Ігар Чарненка і намеснік начальніка ўпраўлення міжнароднага супрацоўніцтва МУС Аляксандр Абламейка.

Як паведаміла ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС, удзельнікі кангрэсу абмяркуюць сучасныя метадыкі расследаванняў кіберзлачынстваў, у тым ліку з выкарыстаннем рэсурсаў інтэрнета, а таксама азнаёмяцца з найноўшымі тэхнічнымі сродкамі барацьбы з камп'ютэрнай злачыннасцю. Акрамя таго, на парадак дня вынесена пытанне аб выкарыстанні каналаў сувязі Інтэрпола для абмену інфармацыяй аб працэдзеянні супрацьпраўным дзеянням у сферы высокіх тэхналогій.

Акрамя ўдзелу ў пленарных пасяджэннях і абмену вопытам з замежнымі калегамі члены беларускай дэлегацыі плануюць правесці рабочую сустрэчу з кіраўніцтвам упраўлення па супрацьдзеянні камп'ютэрнай злачыннасці Агенцтва па барацьбе з цяжкімі злачынствамі і арганізаванай злачыннасцю Вялікабрытаніі. Гаворка пойдзе пра групу асоб, якія маюць адносіны да ўчынення кіберзлачынстваў на тэрыторыі дзвюх краін. Па меры неабходнасці будзе ўзгоднена правядзенне сумесных аператыўных мерапрыемстваў па выкрыцці іх злачыннай дзейнасці.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Для людзей, ад імя людзей і ў імя людзей

**І.П. Шышко,**
*намеснік начальніка Глыбоцкага райвыканкама па ідэалагічнай рабоце і кадраваму забеспячэнню.*

Вядомы выраз «кадры вырашаюць усё» – сёння гучыць асабліва актуальна для ўсіх сфер дзейнасці, але асаблівае значэнне мае якасны падбор кадраў для выканання функцый праваахоўнай дзейнасці. Час прад'яўляе да супрацоўніка міліцыі падвышаныя патрабаванні. У праваахоўных органах павінны працаваць людзі, чыя рэпутацыя ў вачах грамадзян не выклікае сумневу, чые дзеянні ажыццяўляюцца ў рамках закона і службовых абавязкаў, на прынцыпах павагі і паразумення. Сумленнасць, няўхільнае выкананне патрабаванняў закона ў спалучэнні з добрасумленным выкананнем свайго службовага абавязку, мужнасцю і рашучасцю ў барацьбе са злачыннасцю павінны стаць абавязковымі якасцямі захавальнікаў правапарадку, якія працуюць для людзей, ад імя людзей і ў імя людзей.

У наш час аддзелу ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама патрабуюцца спецыялісты для праходжання службы на пасадах радавога і малодшага, а таксама сярэдняга кіравальнага саставу.

**Патрабаванні да кандыдатаў на службу:**

- мужчыны ва ўзросце да 30 гадоў;
- грамадзянства Рэспублікі Беларусь;
- адукацыя сярэдняя, прафесійна-тэхнічная ці сярэдняя спецыяльная для кандыдатаў на пасады радавога і малодшага кіравальнага саставу, вышэйшая або сярэдняя спецыяльная па спецыяльнасці правазнаўства для кандыдатаў на пасады сярэдняга кіравальнага саставу;
- служба ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь (для грамадзян, якія не маюць вышэйшай адукацыі);
- высокія маральныя і дзелавыя якасці;
- адсутнасць судзімасці.

Запрашаем таксама выпускнікоў сярэдніх школ раёна, а таксама грамадзян ва ўзросце да 25 гадоў, якія вызначыліся з выбарам будучай прафесіі і цвёрда вырашылі прысвяціць сваё жыццё барацьбе са злачыннасцю, працягнуць навучанне ва ўстановах адукацыі МУС Рэспублікі Беларусь. Для паступлення на дзённую форму атрымання вышэйшай адукацыі ў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь неабходна звярнуцца ў групу кадраў Глыбоцкага РАУС.

Грамадзян, якія маюць сярэднюю ці прафесійна-тэхнічную адукацыю і праходзілі службу ва ўзброеных сілах Рэспублікі Беларусь, запрашаем для паступлення ў Магілёўскі каледж МУС Рэспублікі Беларусь.

Усіх ахвотных больш падрабязна азнаёміцца з умовамі паступлення, а таксама з умовамі праходжання службы ў органах унутраных спраў чакаем у групе кадраў аддзела ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама (тэл.: 2-25-39).



**На здымку:** у час цырымоніі, прысвечанай Дню беларускай міліцыі, Мінск, 4 сакавіка 2010 года. Photo.bymedia.net

**З 23 лютага 2010 гады набыў моц новы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб занясенні зменаў у некаторыя кодэксы Рэспублікі Беларусь па пытаннях крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці».**

# Аматарам «зялёнага змея» прыйдзецца заплаціць штраф звыш мільёна рублёў

**І.Р. Анашкевіч,**
начальнік ДАІ

Законам занесены змены і дадаткі ў Крымінальны Кодэкс Рэспублікі Беларусь, у Кодэкс Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйных правапарушэннях» і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь.

Змены, якія занесеныя, удакладняюць палажэнні шэрагу прававых нормаў, якія рэгулююць агульныя ўмовы наступу адміністрацыйнай адказнасці і накладанні адміністрацыйных спагнанняў.

Толькі за мінулы год на тэрыторыі Глыбоцкага раёна здзейснена 5 дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў, з іх 3 па віне нецвярозых пешых удзельнікаў дарожнага руху. У дадзеных дарожных здарэннях загінула 3 чалавекі, 2 атрымалі траўмы рознай ступені.

Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што ў адпаведнасці з пунктам 17 Правіл дарожнага руху пешаход абавязаны: рухацца па ходніку, пешаходнай ці веласіпеднай дарожцы, а пры іх адсутнасці - па абочыне. У выпадку адсутнасці паказаных элементаў дарогі ці немагчымасці руху пешаходаў па іх дапушчаецца рух пешаходаў па краі яе праезнай часткі насустрач руху транспартных сродкаў. Пры руху па краі праезнай часткі дарогі ў цёмны час сутак пешаход павінен пазначыць сябе святлоадбівальным элементам (элементамі).

У выпадку не выканання дадзенага пункта правіл дарожнага руху пешаходамі, асобай, якая кіруе роварам, конным возам, адміністрацыйным кодэксам прадугледжана адказнасць у выглядзе штрафу - ад 35 да 105 тысяч беларускіх рублёў. Калі ж парушальнік знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, будуць ужывацца штрафныя санкцыі: ад 3 да 5 базавых велічынь, а калі парушэнні дадзенымі асобамі прывялі да стварэння аварыйнага становішча, то іх чакае штраф 280 тысяч .

Куды больш цяжкія наступствы могуць адбыцца, калі кіроўца сядзе за руль свайго аўтамабіля ў стане алкагольнага ап'янення, або перадасць кіраванне транспартным сродкам такой асобе. Досыць прыняць нават малаважную дозу спіртнога, як пачынаецца падтупліваецца ўвага, парушаецца каардынацыя. Чалавек сам не заўсёды заўважае гэтыя адхіленні. Прыводзіць гэта, як правіла, да вельмі цяжкіх наступстваў.

Аматарам папесціцца «зялёным змеем» прыйдзецца заплаціць штраф звыш мільёна рублёў ці пазбаўлення права кіравання транспартным сродкам тэрмінам да 2 гадоў.

Занесены дадаткі ў артыкул: «Кіраванне транспартным сродкам асобай у стане алкагольнага ап'янення, перадача кіравання транспартным сродкам такой асобе або адмова ад праверкі (агляды)…» яна дапоўнілася часткай трэцяй. Калі супрацоўнік міліцыі спыніць кіроўцу і выявіцца, што ён знаходзіцца ў стане ап'янення і кіроўца будзе тлумачыць, што вось толькі-толькі выпіў, калі яго спыніў супрацоўнік міліцыі, то такі зман не пройдзе - ужыванне кіроўцам алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва, наркатычных сродкаў, псіхатропных, таксічных ці іншых адурманьваючых рэчываў пасля падачы супрацоўнікам унутраных спраў сігналу пра прыпынак транспартнага сродку багата штрафам і пазбаўленнем права кіравання транспартным сродкам тэрмінам ад 1 да 2 гадоў.

І гэтыя меры прыняты не выпадкова, бо за 2009 год па віне п'яных кіроўцаў у Глыбоцкім раёне здзейснена 5 дарожна-транспартныя здарэнні, 1 чалавек па іх віне загінуў, 5 паранена.

Хацелася б спадзявацца, што ўжо ў хуткім часе такія новаўвядзенні прымусяць задумацца людзей, і, магчыма, гэта выратуе не адно чалавечае жыццё!



# ІПэшнікам зноў дазволяць наймаць на працу не толькі сваякоў?

Старшыня «Мінскага сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў» Уладзімір Карагін, які ўваходзіць у грамадскую раду пры Адміністрацыі Прэзідэнта, мяркуе, што ўжо ў найбліжэйшы час будуць прынятыя змены ва ўмовах працы індывідуальных прадпрымальнікаў.

Галоўнае новаўвядзенне — прадпрымальнікам дазволяць наймаць на працу не толькі сваякоў, але і іншых грамадзян.

Такое права было адабрана ў іх у пачатку 2008 года, што стала прычынай шматтысячных акцый пратэсту — дэманстранты двойчы перакрывалі рух у цэнтры Мінска, а тагачасны міністр унутраных спраў Навумаў асабіста кіраваў разгонам акцый.

Уладзімір Карагін кажа, што з такой прапановай да ўладаў звярнуліся усе бізнэс-структуры краіны, і міністр эканомікі падтрымаў ідэю. Цяпер чакаецца толькі рэзалюцыя кіраўніка дзяржавы.

Апроч таго, мяркуецца ўвядзенне падаткавых зніжак для індывідуальных прадпрымальнікаў.

*Ягор Марціновіч*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

22 – 28 сакавіка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 22 сакавіка



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ».
**11.00 «Не родись красивой»**
**12.10 «Синьор 15 шаров»** (Италия).
**14.05** Женское ток-шоу
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** Здоровье.
**16.20 «Огни большого города»** (Россия).
**17.20 «Не родись красивой»**
**18.25** «Прости меня».
**18.50, 00.25** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** Специальный репортаж АТН «Куда уводят детство…».
**22.30 «Доктор Хаус. Четвертый сезон»**
**23.35 «Герои-3»**
**00.30** День спорта.



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Марк Бернес. И надеюсь, что это взаимно».
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Виола Тараканова. В мире преступных страстей».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Монтекристо».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Моя прекрасная няня».**
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых».** IV-й сезон. 7-я серия.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.50 «Женаты... с детьми».**



**00.35** Наши новости.
**00.50-01.00** Новости спорта.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35 «Любовь как любовь»**
**10.40 «Молчи в тряпочку»**
**12.25** «Пра мастацтва».
**12.50** Школа ремонта.
**13.50** Мультсериал **«Галактический футбол»** (Франция).
**14.15** Внеклассный час.
**14.30** Бухта капитанов.
**15.05** Телебарометр.
**15.25 «Оружие»** 1-я с.
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.00 «Люди Шпака»**
**20.05** Белорусское времечко.
**21.10** Калыханка.
**21.25 «Универ»** (Россия).
**22.00** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**23.00** Хоккей. Формула игры.
**23.25 «Оружие»** 1-я с.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Частные истории».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро



пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** ПРЕМЬЕРА! **«Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.30 «ХОЧУ РЕБЕНКА».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25 «БРАТСТВО ВОЛКА».**

БЕЛСАТ tv

**17:00** Аб'ектыў
**17:05** Еўропа сёння
**17:40 «Арол: крымінальная сага»**, серыял, 10 серыя
**18:40** Госць «Белсату»
**19:00** Прэс-экспрэс
**19:20** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:30 «Прыгоды Ціўкі»**, мультсерыял
**19:40** Моўнік
**19:50** ПраСвет
**20:10** «Пішчалаўскі замак», дак. фільм, 2007 г., Беларусь
**20:40** Рэмарка
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Фільматэка майстроў: **«Пінжак»**,
**23:00** Аб'ектыў

